

Газета заснавана ў 1938 годзе.
Адноўлена ў 1997 годзе.

# Газета Слонімская

№ 45 (126). 4 — 10 лістапада 1999г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах. Кошт 40.000 руб.

ПРОШУ СЛОВА

## "Я С ЭТИМ НИКОГДА НЕ СОГЛАШУСЬ"

**Вот уже несколько месяцев, как минула пятилетка правления А.Г. Лукашенко, который с помощью обманутого народа занял высокий пост президента.**




Задаюсь вопросом: что же он сделал хорошего для людей, которые доверили ему свою судьбу, судьбу страны? В период предвыборной кампании А.Г. Лукашенко надавал избирателям горы обещаний. Вы знаете хоть одно, которое он выполнил? (Кроме замены флага, герба и придания русскому языку статуса государственного). Свою предвыборную кампанию А.Г. Лукашенко строил на критике. К примеру, Кебича и его правительство критиковал за то, что он наплодил столько чиновников, что простому люду не под силу содержать их. И обещал: если его изберут президентом, то уж он сократит этот аппарат как минимум на четверть... На деле же не только не сократил, но и увеличил его. Так же вспомню и обвинения А.Г. Лукашенко во время предвыборной кампании в адрес исполняющего функции главы государства Шушкевича, в том, что он не доплатил за строительство дачи сумму, эквивалентную стоимости ящика гвоздей. Едва заняв его место, А.Г. Лукашенко перевел себя на полное государственное обеспечение. За счет государства построил дом матери, отремонтировал дом жены. Спросите из чьего кармана? А этот карман, очевидно ваш, мог бы пополниться из этого же президентского фонда, к примеру, в счет обещания А.Г. Лукашенко во время предвыборной кампании, вернуть людям вклады. Я, честно говоря, когда-то наивно заблуждался, когда допускал мысль о том, что созданный А.Г. Лукашенко фонд, аналогов которому в передовых странах нет, готовит людям приятную неожиданность в возвращении пропавших вкладов. Сегодня мои фантазии на этот счет мне кажутся черным юмором. И это свое обещание А.Г. Лукашенко то ли забыл, то ли не хочет вспоминать.

Итого: я вижу, что белорусская экономика на коленях. Внешняя политика Республики Беларусь замкнулась на общении с одним государством — Россией, экономика которой тоже далеко не передовая.

Уверен, А.Г. Лукашенко понимает, что он натворил, поэтому так настойчив и тороплив в подписании договора с Россией о создании единого государства. Вы не задумывались, почему так торопится наш президент? Мое глубокое убеждение, что этим договором А.Г. Лукашенко умоет свои руки. Освободит себя от ответственности перед Независимой Беларусью, которую этот договор поглотит как независимое государство.

Сейчас Беларуси нужен свежий взгляд и образованный современный лидер, достойный быть президентом европейского государства. Еще в недалеком прошлом такая возможность, с которой я лично связывал большие надежды, была — выборы нового президента в этом году (согласно Конституции). Но сегодня уже ноябрь, и у меня нет президента. Мои надежды с каждым днем все больше превращаются в призрачные мечты. Я с этим не соглашусь никогда. Я буду отстаивать данное мне конституцией право — выбирать президента моей родной независимой Беларуси, а с этим и определять свое будущее.

**Сергей ЗЕНОВ, безработный (по статусу, который мне навязал режим А.Г. Лукашенко), г.Слоним**

### Польские власти ужесточили контроль

**Спасаясь от наплыва дешевых сигарет и водки, Польша ужесточила контроль за въезжающими на ее территорию гражданами Беларуси.**

Первый "звонок" прозвенел несколько недель назад, когда на белорусско-польском переходе "Домачево" польские таможенники потребовали от частных предпринимателей из Беларуси уплатить огромные штрафы за лишние водку и сигареты (официально к ввозу в Польшу разрешены 1 литр водки и 18 пачек сигарет). Разумеется, что так называемых "челноков" это не устроило, и они вернулись домой. Неделю назад польские таможенники почти всех белорусских предпринимателей, пересекших границу в поезде "Брест-Седльце", пересадили в электричку, которая следовала обратно в Брест. Те, кто успел ускользнуть в суматохе от насильственной отправки домой, позже были задержаны и депортированы — с отметками в паспортах, запрещающими въезд на территорию Польши.

**БелаПАН**

НАВІНЫ

### Знікаюць фермы

**У Зэльвенскім раёне перасталі існаваць свінафермы ў калгасах "Бальшавік", "Кастрычнік" і "Караліно".**

У сувязі з гэтым у раёне скараціўся аб'ём вытворчасці свініны на 22%.

**Міхась АКУЛКА**

### Новая пасада

**У Мастоўскім райвыканкаме ўведзена пасада камерцыйнага дырэктара.**

А асоба, якая заняла гэтую пасаду, адразу атрымала для службовага карыстання новую "Ніву". Толькі невядома, чым тая асоба будзе займацца.

### Ведайце нашых

**Першы намеснік старшыні Мастоўскага райвыканкама Адам Кавалька быў рэкамендаваны ў Астравец старшынёй райвыканкама.**

Нягледзячы на тое, што "вертыкальшчык" атрымлівае новую пасаду, на месцы былой працы ён пакідае недабудаваны катэдж.

### Усё для БПСМ

**У шэрагах Мастоўскай раённай арганізацыі БПСМ налічваецца крыху болей як чатырыста членаў.**

Кіруе імі пяць штатных асобаў. Для працы ім райвыканкам выдзеліў два пакоі ды аплочвае расходы на камунальныя паслугі, а таксама абслугоўванне машыны.

Тым часам, як у бюджэце райвыканкама няма грошай на рэканструкцыю дэндпарка, які быў закладзены ў гонар 500-годдзя Мастоў і зараз прыйшоў у занядбанне.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

ЗДАРЭННІ

### Крадзёж сярод белага дня

**Нядаўна ў Дзятлаве на рэчавым рынку сярод белага дня прыватная прадпрымальніца раптам заўважыла, што з яе гандлёвай палаткі зніклі жаночыя боцікі, коштам каля 10 млн. руб.**

Міліцыя хутка затрымала зладзейку, ёй аказалася мясцовая жыхарка.

### Камерсант-злодзей

**Днямі ў міліцыю Дзятлаўскага раёна звярнуўся мужчына, які праходзіць курс лячэння у санаторыі "Наваельня".**

Ён паведаміў, што з палаты зніклі яго рэчы і грошы. Хутка міліцыянеры выявілі злодзея, ім аказаўся сусед пацярпелага, які з'яўляецца прыватным прадпрымальнікам.

**Міхась ЗАГОРСКІ**

ЦЫТЫТА НУМАРА

### ТРЭБА ШУКАЦЬ ЗЕРНЕ

По словах кіраўніка раёна (Станіслава Здановіча — **рэд.**) таму кіраўніцтву камбікормавага завода трэба прыкласці максімум намаганняў па пошуку зерня. Інакш завод спыніцца. Выканкам гатоў дапамагчы ўсямерна, але патрэбны прапановы завадчан, а іх пакуль няма.

***"Слонімскі веснік", №137 ад 2 лістапада 1999 года***

НАВІНЫ

### Чарговае падаражанне нафтапрадуктаў

**У Слоніме, як і па ўсёй Беларусі, зноў падаражэлі гаруча-змазачныя матэрыялы.**

Аб гэтым карэспандэнту "ГС" паведаміў дырэктар Слонімскай нафтабазы Міхаіл Салавей. Ён, у прыватнасці, сказаў, што з 30 кастрычніка адзін літр 76-га бензіну каштуе 125 тыс. руб., 92-га — 163 тыс. руб., 95-га — 214 тыс. руб., дызпаліва (летняе) — 107 тыс. руб. за літр, дызпаліва (зімняе) — 109 тыс. руб., керасін — 74 тысячы рублёў.

— На заправачных станцыях Слоніма сёння можна купіць толькі керасін, дызпаліва па 107 тысяч за 1 літр і 95-ты бензін, — сказаў дырэктар нафтабазы.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Дырка в бюджете

**За девять месяцев нынешнего года расходная часть республиканского бюджета выполнена на 68,4%; доходная — на 65,5%; дефицит бюджета за этот период составил 11,8 триллиона рублей.**

Такие данные привел министр финансов Николай Корбут, выступая в Палате представителей Национального собрания Беларуси.

Названные показатели не выходят за рамки заложенных в основном финансовом документе страны, однако, несмотря на внешне благополучную картину, бюджетный год, по словам министра, предстоит заканчивать "тяжело". Это связано с задолженностью перед бюджетными организациями. В настоящее время она составляет 11,9 триллиона рублей. Основной причиной задолженности министр назвал недополучение средств, которые Минфин рассчитывал привлечь под государственные ценные бумаги.

**БелаПАН**

### Правительство заговорило тем же языком

**На нынешней неделе в Гродно прошла отчетно-выборная конференция горкома профсоюза работников образования.**

На конференции отмечалось, что за отчетный период проблем у педагогов прибавилось. Резко ухудшилось материально-техническое обеспечение учреждений образования. Принятые программы развития образовательной системы не обеспечены финансами. Жизненный уровень работников этой сферы снизился в три раза и продолжает падать. Больше всего волнует педагогов низкая зарплата. Об этом говорил и председатель Федерации профсоюзов белорусской Владимир Гончарик, который принимал участие в работе конференции. Он подчеркнул, что "настал момент, когда нужно по-новому подходить к решению экономических и социальных проблем". Его обнадеживает то, что "правительство впервые заговорило, по существу, тем же языком, которым мы говорим, что необходимо менять подходы к развитию экономики, и, по существу, повторяет то, что выдвинуто в результате наших митингов, наших предложений". В.Гончарик сообщил о состоявшейся у него встрече с первым вице-премьером правительства, на которой обсуждался вопрос необходимости реформы зарплаты.

**Ася КУНИЦКАЯ**

### Опять виновата погода

**В 1999 году в Беларуси произошло снижение урожайности большинства агрокультур.**

Об этом свидетельствуют последние данные, предоставленные БелаПАН в Министерстве статистики и анализа. Официальные власти объясняют такой спад неблагоприятными погодными условиями.

В частности, урожайность зерновых составила около 17 центнеров с гектара против примерно 25 центнеров в 1998 году. Картофеля по состоянию на 11 октября 1999 года собрано 96 центнеров с гектара против 130 центнеров в прошлом году. Вообще "второго хлеба" накопано на эту дату 721 тысяча тонн — на 22% меньше, чем в 1998-м. Урожайность овощей снизилась со 121 центнера с гектара в прошлом году до 106 центнеров в нынешнем, сахарной свеклы — с 296 до 214 центнеров, кормовых корнеплодов — с 272 до 245 центнеров.

**Сергей СНЕГИН**

НАША ІНТЭРВ'Ю

## Віталь Яшану:

# "ДАВЕР РАБОЧЫХ ЗАВАЮЕ ТОЙ ПРАФСАЮЗ, ЯКІ РЭАЛЬНА АБАРАНЯЕ ІХ ПРАВЫ"

**Нядаўна ў мінскай прэсе з'явіліся публікацыі, у якіх згадваецца слонімская камвольна-прадзільная фабрыка і мясцовая арганізацыя Свабоднага прафсаюза, якая ствараецца на гэтым прадпрыемстве. "Белорусская деловая газета" прывяла вытрымкі з загада начальніка аховы фабрыкі Мікалая Валюкевіча. Там ёсць і такі пункт: "в) Усімі даступнымі сродкамі атрымліваць інфармацыю пра абстаноўку ў цэхах, аб выказваннях і настроях. Запамінаць прозвішчы гаварыўшых і дакладваць начальніку каравула...".**

**Вось у такіх умовах на прадпрыемстве ствараецца Свабодны прафсаюз. Якія праблемы паўстаюць перад яго актывістамі? Каб знайсці адказ на гэтае пытанне, карэспандэнт "ГС" звярнуўся да прафсаюзнага лідэра Віталя Яшану.**



**Віталь Яшану нарадзіўся ў 1954 годзе ў Слоніме. Закончыў Бранскі тэкстыльны тэхнікум. З 1973 года працуе на Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыцы. Спачатку памочнікам майстра, пасля майстрам. Цяпер ён зноў рабочы і адначасова арганізатар Свабоднага прафсаюза на буйнейшым прадпрыемстве Слоніма.**

***— Калі вы вырашылі далучыцца да новага прафсаюзнага руху?***

— У недзеяздольнасці існуючага на фабрыцы прафсаюза я ўжо даўно пераканаўся. Сам калісьці абіраўся ў склад прафкама прадпрыемства і добра ведаю, якія там парадкі... Ужо на пачатку 90-х гадоў даведаўся пра існаванне ў Беларусі свабодных прафсаюзаў, але думаў, што яны могуць дзейнічаць у буйных гарадах, дзе ёсць вялікія прадпрыемствы, больш свядомы рабочы клас. І вось атрымалася, што ў той момант, калі бастуючых метрапалітэнаўцаў білі дубінкамі і саджалі ў турму (у жніўні 1995 года ўлады жорстка спынілі страйк мінскага метро — **С. Ё.**), мы, замест таго, каб іх падтрымаць, гаварылі: "А што яны хочуць? У іх зарплата ў два разы большая, чым у нас!". Не ўсведамлялі, што, можа, праца ў іх у шэсць разоў цяжэй, чым у нас.

Паступова я прыходзіў да высновы, што ў існуючых прафсаюзах трэба штосьці мяняць. Сапраўдны прафсаюз павінен адстойваць і абараняць інтарэсы рабочых. З вясны гэтага года я пазнаёміўся з дзейнасцю Свабоднага прафсаюза беларускага і прыняў рашэнне, што варта далучыцца да гэтага руху, паспрабаваць стварыць ячэйку на фабрыцы.

***— А чым адрозніваецца Свабодны прафсаюз ад дзяржаўнага?***

— Адрозненняў шмат. Напрыклад, у Свабодным прафсаюзе няма месца наймальніку і яго прадстаўніку. У адваротным выпадку прафсаюз становіцца "кішэнным" і прымае патрэбныя адміністрацыі рашэнні. Так было пры савецкай уладзе, калі ў прафсаюзе былі і рабочыя, і наймальнікі. Такая сітуацыя і сёння.

Свабодныя прафсаюзы спрабуюць ціснуць на наймальніка, а праз яго — на ўрад, каб прымусіць прымаць рашэнні на карысць рабочых.

Свабодны прафсаюз беларускі ў 1999 годзе прайшоў перарэгістрацыю. Ён дзейнічае ў рамках закону, Канстытуцыі. Таму няправільна, калі наш прафсаюз называюць "неафіцыйным". Свабодны прафсаюз таксама "афіцыйны". Будзе дакладней, калі існуючыя ў Беларусі прафсаюзы называць дзяржаўнымі і свабоднымі.

***— Напэўна, не ўсе рабочыя ведаюць, што ва ўсім свеце існуюць толькі свабодныя прафсаюзы...***

— Так, менавіта свабодныя прафсаюзы. У асноўным, рабочыя уваходзяць у прафсаюзныя арганізацыі. Аднак, гэта не значыць, што сябрам прафсаюза не можа быць майстар. Але там няма такога чалавека, які сваім службовым становішчам мае права выдаваць загады аб пакаранніях ці заахвочваннях работнікаў. Калі перанесці гэта на нашу фабрыку, то майстры і старэйшыя майстры могуць быць сябрамі Свабоднага прафсаюза, а вось начальнік цэха — не.

***— Вы ўжо пачалі ствараць ячэйку Свабоднага прафсаюза на камвольна-прадзільнай фабрыцы. Якая была першая рэакцыя рабочых?***

— Нечаканасць. Ніхто не верыў, што такое магчыма ў Слоніме. Некаторыя ж казалі, што "глядзі, атрымаеш дубінкай, пасадзяць!". Аднак, калі пачаў людзям тлумачыць задачу прафсаюза, які мы ствараем не для сябе, а для ўсіх рабочых, адносіны пачалі мяняцца. Паасобку мы нічога не даб'емся, а калі мы разам, то гэта ўжо вялікая сіла.

У мяне часта пытаюцца: а табе не страшна? Страшна. Можа быць, ад страху я ўсё гэта раблю, крычу, што так не павінна быць. Я не ведаю, як пражыць за сваю зарплату, я не ведаю, куды пашлюць майго сына, якому хутка ісці ў армію, і што будзе з маёй краінай? За свае правы трэба змагацца. І сёння ў такіх, здаецца, стабільных краінах, як ЗША, Германія ці Швецыя, прафсаюзы змагаюцца за правы рабочых.

***— А якія сёння ў вас адносіны з адміністрацыяй фабрыкі?***

— Гэтыя адносіны я б ахарактарызаваў, як здавальняючыя. У тым ліку і з дырэктарам прадпрыемства. Свабодны прафсаюз не імкнецца ствараць канфліктныя сітуацыі. Яго задача — сумесна з адміністрацыяй, шляхам перамоваў, знаходзіць неабходныя рашэнні, якія задавальнялі б абодва бакі. Мы ж разумеем, што нерэальна сёння патрабаваць у адміністрацыі зарплату для рабочага ў памеры 150 даляраў...

Характэрны прыклад. На Гродзенскім тонкасуконным камбінаце была затрымка адпускных на тры дні. Тады Свабодны прафсаюз, які існуе на прадпрыемстве, заступіўся за правы рабочых. У выніку, дырэктар камбіната атрымаў заўвагу ад начальства. На КПФ зарплату і адпускныя пачалі выдаваць праз тыдзень пасля таго, як рабочыя ўжо былі ў адпусках. Дзяржаўны прафсаюз пра гэта не сказаў ні слова!

***— Якім чынам праводзіць сваю дзейнасць Свабодны прафсаюз КПФ?***

— У калектыўным дагаворы запісаны правы і абавязкі прафсаюза, і не сказана якога, свабоднага ці дзяржаўнага. Таму мы і працуем у адпаведнасці з яго палажэннямі. Аднак, калі функцыянеры дзяржаўнага прафсаюза могуць гэта рабіць у працоўны час, то мне даводзіцца займацца прафсаюзнай дзейнасцю падчас абедзеннага перапынку і пасля работы. Аднойчы, калі я спрабаваў у працоўны час распаўсюджваць газету "Рабочы" сярод работнікаў фабрыкі, то атрымаў строгую вымову "за адсутнасць на рабочым месцы і парушэнне прапускнога рэжыму". Таму гаварыць пра роўныя правы прафсаюзаў на фабрыцы не даводзіцца. Тым не менш, я задаволены тым, што пакуль нам асабліва не перашкаджаюць. Хаця маральны ўціск адчуваецца...

***— Вы ўдзельнічалі ў вядомым "Маршы Свабоды"...***

— Так, нёс сцяг Свабоднага прафсаюза. І мой 17-гадовы сын быў са мной побач. І калі на наступны дзень ён пачуў па беларускаму тэлебачанню, што моладзь называюць "отморозками", то вырашыў і ў наступны раз паехаць у Мінск. "Я не "отморозок", я хачу жыць у вольнай і незалежнай Беларусі", — сказаў ён мне.

Народ жыве ўсё горш і горш, і ніякага прасвету не відаць. Калісьці менавіта масавы прафсаюз "Салідарнасць" вывеў Польшчу з эканамічнага і палітычнага тупіка. У падобнай сітуацыі сёння Беларусь.

***— Як вы думаеце, якія перспектывы мае Свабодны прафсаюз у Беларусі?***

— Ва ўмовах рынкавай эканомікі павінна быць канкурэнцыя. Таму няма нічога дрэннага, што сёння існуе два прафсаюза. Аднак найбольшыя шансы заваяваць давер рабочых мае той прафсаюз, які рэальна, а не на словах, абараняе іх правы.

**Сяргей ЁРШ**

НАВІНА

### Резонанс после "Рэзананса"

**Минчанка Вера Терлюкевич обратилась в суд Первомайского района Минска с исковым заявлением о компенсации морального ущерба в сумме 3 млрд. руб.**

Иск предъявлен Национальной государственной телерадиокомпании и ведущему программы "Рэзананс" Александру Зимовскому. Обосновывая исковое требование, В.Терлюкевич говорит о своем участии в Марше Свободы 17 октября как о вынужденной мере — "поскольку у граждан нет доступа к СМИ". В программе же А.Зимовского "Рэзананс" 19 октября прозвучали оскорбительные выражения в адрес участников Марша, например, "куча отморозков".

В.Терлюкевич восприняла это как личное оскорбление и обратилась в суд за защитой чести и достоинства гражданина.

**БелаПАН**

НАВІНЫ

### У Слоніме будзе свая электрастанцыя

**У 2001 годзе ў Слоніме ў раёне камвольна-прадзільнай фабрыкі пачнецца будаўніцтва цеплаэлектрацэнтралі (ЦЭЦ) магутнасцю 12 мВт.**

Аб гэтым карэспандэнту "ГС" паведаміў генеральны дырэктар ВА "Гроднаэнерга" Сяргей Белы.

Ён сказаў, што па гэтаму будаўніцтву цяпер вядуцца перамовы наконт фінансавання і рыхтуецца дакументацыя.

Цеплаэлектрацэнтраль забяспечыць палову Слоніма надзейнай электраэнергіяй. Распрацавана таксама тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне будаўніцтва Зэльвенскай ГРЭС, — сказаў Сяргей Белы.

### Для каго праводзілася канферэнцыя?

**У суботу, 30 кастрычніка, у малой зале раённага дома культуры прайшла рэгіянальная гісторыка-краязнаўчая канферэнцыя "Слонімшчына вачамі гісторыкаў і краязнаўцаў", прысвечаная 70-годдзю Слонімскага музея і 750-годдзю Слоніма.**

З гэтай нагоды ў Слонім прыехалі гісторыкі, навукоўцы і краязнаўцы з Мінска, Гродна. Але выступаць ім практычна не было перад кім. Бо малая зала РДК амаль пуставала. Чыталі і слухалі даклады самі навукоўцы, хаця тэмы іх выступленняў былі разнастайныя і цікавыя. А калі даклады разышліся па секцыях, слухачоў зусім не стала.

— Калі ўжо ў Слоніме навучацца праводзіць навукова-краязнаўчыя канферэнцыі? — запытаўся ў мяне гісторык з Гродна Вячаслаў Швед. — Такія паважаныя прыехалі людзі, каб расказаць пра гісторыю Слоніма і яе знакамітых людзей, а расказваць няма каму. Як арганізоўваць падобныя мерапрыемствы, слонімцам трэба павучыцца ў Навагрудку, Лідзе, Карэлічах, Ашмянах. Там падобныя мерапрыемствы праводзяцца па некалькі разоў на год, выдаюцца зборнікі іх дакладаў, — дадаў гісторык з Гродна.

Сапраўды, сур'ёзнай і карыснай канферэнцыя не атрымалася.

### Прафсаюз настаўнікаў з новым старшынёй

**На прафсаюзным справаздачна-выбарчым сходзе настаўнікаў Слонімшчыны, які адбыўся 27 кастрычніка, абраны новы старшыня.**

Ім стаў намеснік загадчыка гарадскога аддзела адукацыі Мікалай Лішык. Былы старшыня Клаўдзія Сурава "пайшла" на пенсію.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Связь для газовиков

**В Слониме начались работы по возведению башни для обеспечения радиорелейной связи на пути прохождения газопровода "Ямал-Европа".**

Современная связь нужна для надежного обслуживания трассы. На мачте будут установлены антенны, а в помещении Слонимского управления магистральных газопроводов — смонтировано оборудование.

Завершить работы по возведению мачты, высота которой составит 96 метров, планируется до конца этого года.

**Ася КУНИЦКАЯ**

### Посол сделал заявление

**Как сообщила БелаПАН информационная служба Посольства США в Беларуси, посол Соединенных Штатов Америки Дэниел Спекхард направил на имя главы администрации Лукашенко Михаила Мясниковича письмо.**

Д.Спекхард, в частности, просит руководителя администрации президента Беларуси разъяснить свои высказывания, сделанные 18 октября по Белорусскому телевидению, в которых он обвинял Запад в выделении средств на то, чтобы "ломать, крушить и поджигать" (имеются в виду столкновения милиции с участниками "Марша Свободы" 17 октября в Минске — БелаПАН), а "не на лекарства".

Посчитав такие заявления оскорбительными для США, посол Д.Спекхард приводит в письме сведения о том, что за последний год Соединенные Штаты предоставили Беларуси гуманитарную помощь на сумму 15 миллионов долларов США, из которых 5,8 миллионов поступили именно в виде медицинского оборудования и лекарств. Только в сентябре этого года в больницы Беларуси были доставлены лекарства на сумму 1,7 миллиона долларов; тысячи детей из зараженных радиацией районов ежегодно проходят оздоровление в странах Запада за счет принимающей стороны.

Посол отмечает, что вместо обвинений в адрес Запада, белорусским властям "следует обратить внимание на собственную политику подавления и репрессий как источник социальной нестабильности и противостояния в Беларуси".

В письме содержится просьба довести до общественности истинное положение дел в сфере предоставления США гуманитарной помощи Беларуси и прекратить обвинения в адрес Запада в связи с событиями 17 октября.

**Наталья КУЛАГИНА**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая, 109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі........... 2-14-39
.............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 3 лістапада 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 8000 экз.
Заказ № 2837
© «Газета Слонімская»
Спасылка на «ГС» абавязковая
Ⓚ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://www.irex.minsk.by/gs

ЖАЛОБА

# СЛОНІМ РАЗВІТАЎСЯ З ПАЭТАМ

**У сераду, 27 кастрычніка, слонімцы развіталіся з паэтам, членам Саюза беларускіх пісьменнікаў, удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны Анатолем Іверсам (Іванам Дарафеевічам Міско).**

Яго пахавалі на гарадскіх могілках, што на вуліцы Чырвоных партызан, побач з жонкай Нінай Паўлаўнай.

З развітальным словам у час паніхіды выступілі пісьменнікі з Мінска Уладзімір Ягоўдзік і Алесь Давыдаў, з Гродна – Данута Бічэль-Загнетава, са Слоніма – Аляксей Якімовіч і Іван Сяргейчык, а таксама сябры і знаёмыя.

На жаль, развітацца з вельмі паважаным і вядомым чалавекам на Слонімшчыне не прыйшоў ніхто з работнікаў гарвыканкама і ветэранскай арганізацыі. Відаць, сваім Анатоля Іверса яны ніколі, а тым больш сёння, не лічылі. Што ж, іх справа. Але Анатоль Іверс, аўтар сямі кніг паэзіі, былы сакратар Слонімскага міжраённага антыфашысцкага камітэта, быў і застаўся чалавекам-легендай, часцінкай нашай гісторыі.

Сяргей ЧЫГРЫН

НАВІНЫ

# В МИНСКЕ ПРОШЛИ "ДЗЯДЫ"

**31 октября в Минске около тысячи человек приняли участие в митинге, который прошел в урочище "Куропаты" и был посвящен дню поминовения предков "Дзяды".**

Несмотря на небольшое число участников, заявленное организаторами акции, властями были предприняты усиленные меры безопасности, дабы избежать повторения событий 17 октября, когда произошли столкновения демонстрантов с милицией. Мингорисполком не дал санкцию на проведение шествия. Большие скопления милиции и внутренних войск были замечены в районе здания резиденции президента, площади Якуба Коласа, возле Академии наук, Московского кладбища и, непосредственно, в Куропатах. Сотрудники правоохранительных органов запрещали людям собираться на площади Я.Коласа, задержав здесь до десяти человек. У фотокорреспондента польской "Газеты выборчей" Роберта Ковалевского была изъята пленка, на которой он запечатлел момент задержания одной из участниц акции. Предпринимались также попытки помешать работе съемочной группы российского телеканала ТВ-Центр и корреспондента Радио "Свобода". Несмотря на запрет и неоднократные предупреждения сотрудников милиции о том, что акция не санкционирована властями, около сотни человек организованно прошли по тротуарам от Московского кладбища до урочища Куропаты.

БелаПАН

# ДВА КРЫЖЫ ПОБАЧ

**У кожнай вёсцы на Беларусі заўжды ставіліся ці абнаўляліся крыжы. Але ў часы таталітарнай сістэмы многія былі знішчаны і доўгі час не абнаўляліся. Так было і ў Дзярэчыне. Мясцовы касцёл быў аднаўлены ў 1993 годзе, а пра крыж людзі чамусьці забыліся.**

І толькі ў 1999 годзе па ініцыятыве пробашча-брата Юзэфа Файлера прыхажане паставілі некалькі крыжоў пры ўездах у Дзярэчын.

Прыемна адзначыць, што і ў цэнтры Дзярэчына, каля царквы і аўтобуснай станцыі, пастаўлены два крыжы – каталіцкі і праваслаўны, якія амаль аднолькавыя па форме, памерах і колеру. На крыжах зроблены надпісы: "Госпад Ісус, змілуйся нада мной" і "2000 гадоў нараджэння Хрыстова".

# ПАТОМКІ САПЕГАЎ НА РАДЗІМЕ ПРОДКАЎ

**24 кастрычніка 1999 года ў Дзярэчынскім касцёле адбылося богаслужэнне ў гонар фундатараў касцёлаў (маецца на ўвазе і першы касцёл, які быў пабудаваны ў пачатку XVII стагоддзя і знішчаны пажарам у 1866 годзе).**

Першым фундатарам касцёла быў князь Канстанцін Палубінскі, а з 1685 года мястэчка Дзярэчын ад Палубінскіх пераходзіць да новых уладальнікаў. Ад гэтай пары амаль паўтара стагоддзя Дзярэчын належаў князям Сапегам, якія паказалі сябе добрымі гаспадарамі.

Богаслужэнне вёў гродзенскі біскуп Аляксандр Кашкевіч. На ім прысутнічалі князь Яўстах Севярын Сапега з Найробі (Кенія ў далёкай Афрыцы), князь Пётр Сапега з Варшавы, якія прыехалі ў Дзярэчын аддаць даніну памяці сваім знакамітым продкам. Калісьці Сапегі мелі ў Дзярэчыне прыгожы палац...

На ўрачыстасці таксама прысутнічалі прафесар мастацтвазнаўства Марыя Каламійская-Сас з Варшавы, аўтар кнігі "Дзярэчынскі дыярыюш" Міхась Скобла, фундатар-прадпрымальнік і паэт Валянцін Дубатоўка з Гродна, дырэктар фірмы "МЕДА" В. Калацкі, многія дзярэчынцы.

Яўстах Севярын Сапега, якому цяпер 82 гады, са слязамі на вачах дзякаваў усім за такі радушны прыём на зямлі сваіх продкаў.

Пётр МАРЦІНОЎСКІ

**Р. S.** Больш падрабязна пра ўрачыстасць у Дзярэчыне чытайце ў наступным нумары "ГС".

ЗДАРЭННІ

## У адзін дзень

### Раніцай

**30-га кастрычніка 67-гадовы пенсіянер з вёскі Падмошша Слонімскага раёна Мікалай Рудзік зачыніў комін печкі, а сам лёг спаць.**

Праз некалькі гадзін ён памёр ад чаду.

### Апоўдні

**таго ж дня ў вёсцы Дзераўная Слонімскага раёна ва ўласным доме быў знойдзены труп 39-гадовай Валянціны Купіч.**

Прычына смерці жанчыны ўстанаўліваецца.

### А ноччу

**непадалёку ад вёскі Дзеравянчыцы загарэлася сціртa саломы. Вагой, прыкладна, каля 200 тон.**

Падпальшчыкі ўстаноўлены. Імі аказаліся жыхар вёскі Шыганы і двое навучэнцаў Слонімскага ПТВ.

Узбуджана крымінальная справа.

### На мужа з сякерай

**У мінулую суботу ў Слоніме на Чырвонаармейскай вуліцы падчас сямейнай сваркі жонка ўдарыла мужа сякерай па галаве.**

Ад атрыманых калецтваў 49-гадовы мужчына памёр у бальніцы.

Узбуджана крымінальная справа.

## Злодзеі ўкралі

### шкло...

**Незвычайным спосабам вырашыў адрамантаваць свой разбіты аўтамабіль 20-гадовы жыхар С. з вёскі Войневічы Дзятлаўскага раёна.**

Ноччу ён зайшоў на падворак жыхара М. з вёскі Дзераўная Слонімскага раёна і зняў з ягонай легкавушкі лабавое і задняе шкло. Аднак устанавіць іх у свой "Масквіч" злодзей не паспеў, бо быў затрыманы міліцыяй.

### ...тэлевізар

**У ноч з 30 на 31 кастрычніка невядомы злодзей залез у дом жыхара з Сеннай вуліцы Слоніма і ўкраў тэлевізар, відэа- і аўдыёмагнітафоны, а таксама адзенне.**

Міліцыя вядзе пошук злодзея.

### ...колы

**Днямі злодзей зламаў замок і залез у адзін з гаражоў кааператыва "Эдэльвейс", што па вуліцы Касаўскі тракт.**

Адтуль ён украў чатыры колы з аўтамабіля, які належыць слонімцу К.

### ...парсюка

**Ноччу невядомыя залезлі ў хлеў жыхара Б. з вёскі Азяраны Дзятлаўскага раёна.**

Яны ўкралі парсюка вагою 200 кілаграмаў.

### Смерць на дарозе

**На праезджай частцы дарогі Дзятлава-Навальня ляжаў чалавек.**

Вадзіцель легкавога аўтамабіля не заўважыў мужчыну і наехаў на яго. Ад атрыманых ранаў чалавек памёр на месцы.

Валянцін ЧУРЫЛА
Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ

ЗАХАПЛЕННЕ

**Віталь Гіль працуе электрыкам на слонімскім тэлевізійным рэтранслятары. Фатаграфіяй захапляецца з 9 гадоў, але сур'ёзна — толькі апошнім часам. Асабліва яму падабаюцца партрэты, а наогул здымае тое, што яму здаецца цікавым. А яшчэ Гіль вядзе фотагурток у РДК, працуе з дзецьмі. У "ГС" здымак Віталя Гіля друкаваўся яшчэ ў 1997 годзе. Сёння прапануем чытачам газеты новую падборку яго работ.**



Фота Віталя ГІЛЯ





НАВІНЫ

## Маладыя пераможцы жніва

**Па выніках рэспубліканскага спаборніцтва на сёлетнім жніве другое месца сярод маладзёжных экіпажаў камбайнаў занялі браты Аляксандр і Сяргей Каўчуны з калгаса "Чырвоны партызан" Слонімскага раёна.**

Аляксандр узнагароджаны халадзільнікам, а Сяргей атрымаў тэлевізар.

Трэцяе месца занялі Анатоль Апанасік і Аляксандр Пачук з саўгаса "Раготна" Дзятлаўскага раёна, якія атрымалі ў прызы тэлевізар і веласіпед.

Валянцін ЧУРЫЛА

## Все начинается с любви

**В клубе "Лира", любительском объединении при городской библиотеке №4 г. Слонима, прошел вечер поэзии, посвященный матери.**

В доверительной теплой атмосфере собрались читатели, которые пишут стихи.

Всем присутствующим очень понравилась любовная лирика Леонида Грушко, Ивана Мартыновича и Жанны Кухтиной. В этот вечер интересной была выставка макрамэ Татьяны Булановой, ее работы были удостоены диплома ООН на выставке в Минске в 1995 году.

Нина ДУБРОВСКАЯ

ГУМАРЭСКА




Малюнак Яўгена ІВАНОВА

Начная атака на самагоншчыкаў закончылася. Участковы інспектар Міхась Луз і старшыня сельсавета Пятрусь Бярэйка з вялікім пачуццём выкананага абавязку і саракалітровай каністрай чысцюткага, як мужчынская сляза, чымергесу, пад'ехалі на матацыкле да будынка сельсавета. Пятрусь Бярэйка пайшоў адмыкаць дзверы, а Міхась Луз, натужыўшыся, выцягнуў з каляскі каністру і павалок яе ў старшынёўскі кабінет. Прымастакаваў у кутку, пацёр натруджаныя рукі і прамовіў:

– Добра сёння папрацавалі! У Манькаўшчыне брагу вылілі, у Лазянах апарат пабілі, а ў Жучках, во, цэлую каністру гары ліквідавалі. – І прапанаваў. – Давай пакаштуем, што за прадукт?

Не чакаючы Петрусёвай згоды, узяў шклянку, адкаркаваў каністру, набулькаў ледзь не да краёў, выдыхнуў паветра і каўтануў, задраўшы галаву. А калі адкаціўся дух, задаволена прамовіў:

– Навучыліся, халеры, гнаць...

Прыклаўся да шклянкі і Пятрусь. Потым зноў Міхась. Ды зноў Пятрусь, які пасля чарговай порцыі сказаў:

– Паслухай сюды. Пакуль зусім розум не прапілі, трэба падумаць, дзе гэта дабро схаваць. Тут пакідаць нельга. Яшчэ хто ўбачыць.

– Давай схаваем у сельсавецкай прыбудоўцы. Ключа ад яе нікому не давай. Будзем тады-сяды прычашчацца.

– Не-е! – рашуча запярэчыў Пятрусь. – У дзяржаўнай установе?! Ты на што мяне падбіваеш?!

– Дык не выліваць жа...

– Завязі ў Смарчкі да цешчы.

– Ды гэтая ведзьма жывым з'есць...

– Ат, рабі, што хочаш, а мне пара спаць, – млява мовіў Пятрусь.

Пакрыўджаны Міхась пацягнуў цяжкую каністру да матацыкла, пакінуўшы Петруся кляваць носам за вязьным старшынёўскім сталом.

Па дарозе ў яго п'яных мазгах узнікла геніяльная ідэя – зрабіць цешчы падарунак. Ды які!..

Было недзе гадзіны тры ночы. Вёска спала мёртвым сном. Нават сабакі ленаваліся гаўкаць на гук яго матацыкла.

– Спыніўшыся за тры хаты ад цешчынай, заглушыў матор. Выцягнуў каністру і папёр на цешчын падворак. Набулькаў амаль паўнюткае вядро, што стаяла на падстаўцы ля калодзежа і зларадна падумаў:

– От жа заўтра хохма будзе!

Палягчэлую каністру панёс назад, акуратна зачыніўшы на кручок варотцы.

Раніцай, яшчэ ў прыцемку, Ганна Лапата запаліла ў печы і пайшла па ваду. Бачыць, паўнюткае вядро стаіць. Падзівілася: хто гэта такі руплівы выцягнуў?

Наліла вады ў чыгунок, а сама ўзялася абіраць бульбу.

Не паспела і некалькі бульбін ачысціць, як у хату ўсунулася суседка Кацярына, якая прынесла вясковыя навіны. Пачала пра нешта расказваць ды раптам як заенчыць, як замахае рукамі.

– А-ёй, Ганначка! Вада ў гаршку загарэлася! Канец свету! Такі мой унук вычытаў, што недзе анучы мокрыя гарэлі ды па пакоі шафа сама рухалася...

Ганна ўскочыла з зэдліка і зноў плюхнулася назад – сінім полымем у гаршку пылала вада.

Яна і слова не прамовіла, як Кацярына выкацілася за парог і качкай панеслася па вёсцы, галосячы:

– А-я-ёй! У Лапатаў вада гарыць!

Неўзабаве ў хату да Ганны набілася ледзь не паўвёскі. Людзі стаялі са здзеравянелымі тварамі, і ніхто не рашаўся дакрануцца да гаршка, у якім шугала сіняе полымя.

– А дзе тое вядро, з якога ваду ў гаршчок налівалі? – запытаўся брыгадзір, які таксама завітаў паглядзець на цуд.

– А там, у баковачцы стаіць, – з гатоўнасцю адказала Ганна. – Я, як вады наліла, вядро адразу вынесла.

Брыгадзір прынёс вядро, паднёс яго да носа, панюхаў, нахіліў і адпіў глыток. Па кухні паплыў знаёмы пах... Пачуўшы яго, вясковыя выпівохі Сымон Клешч і Андрэй Бурбалка паглядзелі адзін на аднаго і пачалі хуценька прабірацца да парога. Гэта ж жартачкі? У Лапатаў цэлы калодзеж гарэлкі! І яны, у стане цяжкага пахмелля, заслужылі права першай чаркі.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

ДЭБЮТ

# Вершы Вольгі Барысевіч



Оля Барысевіч вучыцца ў сёмым класе СШ №4 г.Слоніма. Піша вершы. Яны прысвечаны роднай прыродзе і беларускай зямлі. Яшчэ нідзе вершы юнай паэткі не друкаваліся, але аднакласнікі ведаюць, што Оля захапляецца паэзіяй. Нядаўна яна прынесла ў нашу рэдакцыю цэлую вязанку сваіх паэтычных твораў. Леншыя з іх прапануем чытачам "ГС". Верыцца, што ў Вольгі Барысевіч усё добрае яшчэ наперадзе, і поспехі ў творчасці таксама.

**Кветачкі-сняжынкі**

*На паляне расцвілі*
*Кветачкі-сняжынкі.*
*Не паспеў і снег сысці -*
*Зззяюць, бы іскрынкі!*
*Вось пайду я*
*сёння ў лес,*
*Назбіраю кветак,*
*Хоць яшчэ не пахне бэз*
*І далёка лета.*



**Стары дуб**

*Дуб стаіць*
*каля сцяжынкі.*
*Ён расце гадоў,*
*мо, сто.*
*А лісточкі-весялінкі*
*Заглядаюць у вакно.*
*Ствол яго такі вялікі -*
*Дрэвы ўсе ён перарос.*
*Ды імкнуцца*
*ўверх галіны*
*Аж да самых да нябёс.*

**Вецер**

*Вецер, ветрык-матылёк*
*Прыляцеў*
*да нас здалёк.*
*Расчасаў у дрэў*
*лісточкі,*
*Пагуляў на славу ноччу:*
*І на рэчцы пабываў,*
*Хвалі там*
*узбунтаваў.*
*Быў таксама*
*ў нашым лесе,*
*Праспяваў*
*сваю ён песню,*
*І на лузе працаваў —*
*Дзьмухаўцы параздуваў,*
*А пад раніцу — прапаў.*

**Дождж**

*Дожджжык*
*льецца з ночы*
*І грыміць па ганку...*
*Як прыемна крочыць*
*Па сцяжынцы ранкам!*
*Парасон трымаеш*
*І бяжыш, як вецер,*
*Песеньку спяваеш*
*Лепшую у свеце.*
*І дарэмна плача*
*Хмарка у нябёсах.*
*Дожджжык так і скача*
*Па траве у росах.*



А ЯШЧЭ БЫЎ ТАКІ ВЫПАДАК

# "ТАПЕЛЕЦ"

Ціхім кастрычніцкім вечарам на беразе Шчары апынуліся два чалавекі. Адзін з іх, Васіль Верамейчык, пасварыўся з жонкай і прыйшоў сюды, каб перасядзець гадзіну-другую, другі быў чалавекам дзіўных паводзін.

Верамейчык, седзячы на прыбярэжным камяні, даўно ўжо з неспакоем сачыў за паводзінамі невядомага чалавека, які хадзіў уздоўж берага, гучна ўздыхаў і пільна глядзеў у ваду. Было відаць, што ў яго душы адбывалася цяжкая барацьба...

Нарэшце чалавек махнуў рукой, мелькам глянуў на Верамейчыка і, зняўшы стары пацёрты пінжак, палез у ваду, курчачыся ад холаду і раз-пораз уздыхаючы.

– Гэй! – спалохана закрычаў Верамейчык, ускокваючы на ногі. – Што вы там робіце?

Незнаёмец аглянуўся, зрабіў развітальны жэст і сказаў:

– Не перашкаджайце! Я ўжо так вырашыў...

– Што вы вырашылі? Што вы робіце?!

– Асляплі вы, ці што? Не бачыце – хачу ўтапіцца...

– Гэта глупства! Я не дапушчу вас да гэтага, – закрычаў Васіль Верамейчык.

Невядомы чалавек, махаючы рукамі, зрабіў нерашучы крок наперад і ўсклікнуў:

– Усё роўна – няма мне ў жыцці шчасця. Бывай, незнаёмец! Не ўспамінай ліхам.

Верамейчык плюнуў, выламаўся і кінуўся ў ваду. Выцягнуць самазабойцу не ўяўляла цяжкасці, бо ў тым месцы, дзе ён стаяў, у Шчары было не глыбока – чуць вышэй каленяў.

– Дурань! – казаў Верамейчык, цягнучы невядомага чалавека за каўнер. – Што вы задумалі?! Гэта ж поўнае глупства і вялікі грэх.

На беразе самазабойца супраціўляўся Верамейчыку ляніва і без асаблівага энтузіязму. Кінуты моцнай рукой Верамейчыка на траву, ён устаў, страсянуўся і, насупіўшыся, сунуў Васілю ў руку сваю мокрую далонь.

– Пятрусь Карась! – сказаў ён ветліва.

– Вельмі прыемна, – трасучыся ад напружання, адказаў Верамейчык. – Маё прозвішча Верамейчык. Спадзяюся, вы больш не паўторыце сваю неразумную спробу?

Карась нечакана схапіўся за галаву і заенчыў:

– Навошта вы мяне выратавалі? Хто вас прасіў?! Пусціце мяне туды, у гэтыя халодныя хвалі... Я здабуду там спакой!..

Верамейчык па-сяброўску абхапіў Карася за плечы і сказаў:

– Ну, супакойцеся... Што вы, на самой справе... Я ўпэўнены, што ўсё абыдзецца... Самае моцнае гора з часам забываецца...

– Ды ў мяне нічога такога і не было, – прабурчаў, схіліўшы галаву, Карась.

– Дык чаго ж вы так?

– З голаду, з беднасці, з сораму перад людзьмі за гэты пінжак, які вымушаны даношваць...

– Усяго!

– ажывіўся Верамейчык.

– Дык гэта ж дробязі! Вашаму гору можна дапамагчы. Пойдзем да мяне дамоў, я жыву тут, недалёка, на Чырвонаармейскай.

– Я ні перад кім не хачу быць абавязаны, – ганарліва прабурчаў Карась.

– Ды што там! Пойдзем, – угаворваў Верамейчык.

Карась устаў, абтрос са свайго мокрага адзення пясок, уздыхнуў і пакрочыў за сваім выратавальнікам.

Дома жонка Верамейчыка, хударлявая і стройная бухгалтарка Галя, яшчэ не астыўшая ад нядаўняй сваркі, спачатку накінулася на яго:



Малюнак Яўгена ІВАНОВА

– Яшчэ аднаго п'яніцу за сабой у хату прывалок, – закрычала яна. – Каб ты задушыўся разам з ім!

– Ды не п'яніца гэта, а няшчасны чалавек. Утапіцца хацеў, – апраўдваўся Верамейчык.

Пачуўшы кароткую споведзь Карася і пераканаўшыся, што ён не п'яны і даволі прывабны на выгляд мужчына, Галя змяніла гнеў на міласць:

– Дык чаго ж ты стаіш, як пень?! – накінулася яна на мужа. – Збегай да Габрыянчыхі па самагонку, час яшчэ не позні. Трэба ж чалавека пагрэць і абсушыць!

Вяртаючыся праз хвілін дваццаць ад суседкі з бутэлькай самагонкі ў кішэні, Верамейчык пачуў у сенцах галасы жонкі і Карася.

– Ну пацалуйце мяне яшчэ разок, што вам, цяжка? – прасіў Карась.

– Не жартуйце з агнём, хутка вернецца мой Верамейчык і, калі ўбачыць такое, – бяды не абярэшся, – казала Галя. – Хіба калі пазней спаткаемся...

– Ну ўсяго адзін разок! – не супыняўся Карась. – Калі вы дасцё мне пацалунак, я зараз жа аддам яго вам назад. Га?..

– Вы што, з глузду з'ехалі? Што вы робіце?..

Пачуўся ціхі смех і гук сакавітага пацалунка.

– Сволач! – заскрыгітаў зубамі Верамейчык і, схапіўшы ў сенцах швабру, уляцеў у хату. Галя куляй выскачыла ў суседні пакой.

– Няўдзячная свіння! – крыкнуў Васіль. – За тое, што я цябе выратаваў, ты да маёй жонкі прыстаеш! Вон з хаты, бо заб'ю.

Але Карась спакойна аднёсся да Васілёвай пагрозы і запытаў:

– Навошта вы мяне ратавалі? Ратавалі, ратавалі, а зараз хочаце забіць, зноў пхаеце мяне ў ваду?

– Ідзі тапіся! Пальцам не паварушу, каб цябе выратаваць. Ды ты і не будзеш тапіцца, – крычаў Верамейчык.

– Не буду? Паглядзім! Бывайце, Верамейчык! – урачыста прамовіў Карась. – Няхай мая кроў будзе на вашым сумленні.

Сказаўшы так, Карась выскачыў з хаты і пабег у бок Шчары.

Васіль крыху спужаўся і вырашыў пайсці паглядзець, што адбудзецца далей.

– Ліха яго ведае, што ў яго ў галаве? – думаў ён. – Можа хто і бачыў, што гэты абармот быў у маёй хаце? Утопіцца, то зацягае міліцыя...

З такой думкай ён прыйшоў на бераг Шчары. Схаваўшыся за дрэва, назіраў, як Карась няўпэўненымі крокамі хадзіў па беразе і разпораз панура глядзеў на раку. Нарэшце, убачыўшы недалёка жанчыну і мужчыну, якія гулялі па беразе, махнуў рукой, агленуўся і палез у ваду.

– Што ён робіць? – жахліва ўсклікнула жанчына... – Тапіцца збіраецца! Нельга дапусціць гэтага!

З-за дрэва Верамейчык бачыў, як мужчына ўскочыў у ваду і стаў валачы "самазабойцу" да берага. Некалькі хвілін мужчына з жанчынай нешта абмяркоўвалі, а пасля па-сяброўску ўзяўшы Карася пад рукі павялі з сабой.

Да Верамейчыка данесліся словы:

– Я ні перад кім не хачу быць абавязаны...

**Валянцін ЧУРЫЛА**

